# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№12 (235)

снежань 2021



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” (у працэсе ліквідацыі)



Ва ўмовах пандэміі COVID19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае працэс ліквідацыі, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



WOMEN INNOVATION NETWORK

# ПРАЕКТ, ЯКІ ДАПАМАГАЕ БЕЛАРУСКАМ У ПРАЦАЎЛАДКАВАННІ І САМАРЭАЛІЗАЦЫІ

Калядны час – гэта час для цудаў і новых магчымасцяў. Таму мы ствараем Жаночую інавацыйную сетку – WIN2BY – і запрашаем усіх беларусак незалежна ад месцазнаходжання далучыцца да яе.

**Чым можа дапамагчы WIN2BY**

WIN2BY дапаможа раскрыць напоўніцу свой прадпрымальніцкі патэнцыял, знайсці новую цікавую працу альбо адчуць натхненне, каб распачаць уласную справу. І ў выніку – спрычыніцца да стварэння сяброўскай супольнасці, дзе можна будзе знайсці аднадумцаў, партнёраў, падзяліцца сваімі навыкамі і досведам.

**Што чакае ў межах праекта**

У межах праекта будуць арганізаваныя навучальныя семінары, трэнінгі і індывідуальныя кансультацыі па актуальных пытаннях працаўладкавання і развіцця ўласнага бізнесу як у Беларусі, так і за яе межамі. Усе сустрэчы будуць адбывацца анлайн, таму вы зможаце далучыцца з любой кропкі.

Разам з замежнымі і беларускімі экспертамі вы даведаецеся пра тэндэнцыі рынку працы, навучыцеся эфектыўна складаць рэзюмэ і карыстацца адмысловымі онлайн-пляцоўкамі для яго прасоўвання, пазнаёміцеся з юрыдычнымі нюансамі працаўладкавання ў Беларусі і ў суседніх краінах.

**Як далучыцца**

Жаночая інавацыйна сетка для беларусак – гэта новыя магчымасці для самаразвіцця і самарэалізацыі. Актуальна?

Для рэгістрацыі сасканіруйце QR-код. Заяўкі прымаюцца да 16 студзеня 2022 года ўключна.



Удзел у праекце бясплатны – для ўсіх беларусак у Беларусі і па-за яе межамі.

Ёсць пытанні? Пішыце на win2belarus@gmail.com, а таксама далучайцеся да старонкі ў Facebook: facebook.com/WIN2Belarus.

Створым жаночую інавацыйную сетку разам!

**Вынік на сёння – дапамога 200 украінскім і грузінскім жанчынам**

Праект “Жаночая інавацыйная сетка для беларусак” (WIN2BY) – частка міжнароднага праекта Women Innovation Network, які аб’ядноўвае жанчын у прафесійную супольнасць і дапамагае знайсці сваё месца на рынку працы. Дзякуючы працы праекта ва Украіне і Грузіі, больш за 200 украінскіх і грузінскіх жанчын атрымалі дапамогу ў працаўладкаванні і неабходныя веды для павышэння сваёй канкурэнтназдольнасці на рынку працы.

Ажыццяўляецца фондам Ignatianum у супрацоўніцтве з Ініцыятыўнай групай “Бацькаўшчына” з Літвы.

budzma.org

in memoriam

# У МІНСКУ РАЗВІТАЛІСЯ З АДАМАМ МАЛЬДЗІСАМ

Сябра Рады "Бацькаўшчыны" Адам Мальдзіс памёр 3 студзеня ў Мінску на 90-м годзе жыцця. Ягоны сыход – гэта вялізная страта для беларускай навукі і культуры.

Развітане з Адамам Мальдзісам прайшло 5 студзеня ў Чырвоным касцёле ў Мінску. Правесці ў апошні шлях выбітнага беларускага культурнага дзеяча, слыннага публіцыста і літаратуразнаўцу сабралася больш за сотню чалавек. Касцёл быў поўны.

Пахавальная імша доўжылася каля гадзіны. Служыў імшу арцыбіскуп эмерыт Тадэвуш Кандрусевіч.

На развітанні прысутнічалі Лявон Баршчэўскі, Аксана Спрынчан, Сяргей Шапран, Леанід Дранько-Майсюк і іншыя вядомыя беларускія грамадскія і культурныя дзеячы.

Адама Мальдзіса пахаваюць на могілках вёскі Задворнікі Астравецкага раёна.

**Інфармацыйны цэнтр ЗБС "Бацькаўшчына"**

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра смуткуе і выказвае спачуванні сваякам, блізкім і калегам Адама Мальдзіса, а таксама ўсім, хто яго ведаў.**









навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ДЗЯВЯТЫ ВЫПУСК "ДЗЁННІКАЎ І ЗАПІСАЎ" – НОВАЯ КНІГА "БІБЛІЯТЭКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" Ў НОВЫМ ГОДЗЕ

У "Бібліятэцы Бацькаўшчыны" выйшаў чарговы том – дзявяты выпуск "Дзённікаў і запісаў" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, падрыхтаваны да выдання Наталляй Давыдзенка.

Запісы па-ранейшаму ўтрымліваюць шмат кароткіх і змястоўных побытавых замалёвак і каштоўных успамінаў пра беларускіх літаратараў, а таксама больш за 130 раней нідзе не друкаваных вершаў.

Перыяд з 1998 па 2002 год, якія ахоплівае кніга, быў не самым простым часам для эканамічнага і палітычнага жыцця краіны. Гэта ў пэўнай ступені адбілася і на агульным настроі дзённікаў. Асабліва змрочным эпізодам для дзядзькі Рыгора стаўся ад'езд за мяжу блізкага сябра – Васіля Быкава. Але творчая праца не спынялася, і дзённікі даюць магчымасць адным вокам зазірнуць на творчую кухню па стварэнні некалькіх цыклаў духоўнай паэзіі, перакладаў і працы над дакументальнымі фільмамі пра мінскае гета і Змітрака Бядулю.

Хапае таксама гумару і вандровак. Акрамя паездак і выступаў у розных гарадах Беларусі было тры замежныя падарожжы: у Лондан (дзе адведаў знакамітую "Скарынаўку", сустрэўся з айцом Аляксандрам Надсанам і беларусістамі – перакладчыцай Верай Рыч, даследчыкамі Гаем Пікардам і Арнольдам Макмілінам), у Рыгу і ў Швецыю (разам з Алесем Разанавым і "Бум-Бам-Літам").

Замовіць кнігу можна ў інтэрнэт-краме knihi.by.

**Інфармацыйны цэнтр ЗБС "Бацькаўшчына"**



**навіны**

# Таццяна Нядбай пра эміграцыю: ВАЖНА НЕ РАСПУСЦІЦЦА, БЫ СОЛЬ У ВАДЗЕ, У КУЛЬТУРЫ ІНШЫХ КРАІН

Беларускі ПЭН-цэнтр – арганізацыя, якая сумяшчае ў сабе дзве функцыі: падтрымку творчасці і абарону культурніцкіх правоў. Апошняя сфера дзейнасці як ніколі актуальная цягам апошніх двух год. Гутарка з намесніцай старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра Таццянай Нядбай пра творчасць, права на меркаванне пра выпаленае поле ўнутры Беларусі.

– Са студзеня па верасень мы зафіксавалі 1032 выпадкі парушэння правоў чалавека ў дачыненні да дзеячаў культуры. Мы бачым, што колькасць гэтых выпадкаў павялічваецца. Гэта сведчыць, што крызіс не мінае, а ўсё больш разгортваецца. І калі год таму выпадкі парушэння культурных правоў і правоў дзеячаў культуры былі ў большасці звязаныя з вулічнымі пратэстамі, то цяпер пераслед мае схаваныя формы: гэта звальненні, пераслед за свабоду выказвання ў той ці іншай форме.

Затрыманні, абвінавачванні, якія прад'яўляюцца за так званае "пікетаванне татуіроўкай" або свечку ў вакне. Гэта ўсё – выказванне меркавання. Калі гэтае меркаванне ўлады трактуюць як неадпаведнае дзяржаўнай палітыцы, то пераследуюць за гэта. Але гэта пераслед за іншадумства. Гэта спадчына Савецкіх часоў. Нам даводзіцца жыць у такі час. Пераслед за іншадумства займае першае месца ў нашым топ-10 парушэнняў правоў чалавека за студзень-верасень 2021 года, – кажа Таццяна Нядбай.

Моцная хваля рэпрэсій справакавала найбольшую ў новай гісторыі Беларусі хвалю міграцыі – з краіны выехалі сотні прадстаўнікоў культурніцкай сферы. Намесніца старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра Таццяна Нядбай заклікае не растварацца ў асяродку іншых краін, а запасацца досведам, пераймаць новыя і лепшыя практыкі, што можна было б пасля забраць у Беларусь па вяртанні:

– Мы ўпершыню сутыкнуліся з такой вялікай хваляй эміграцыі дзеячаў культуры, творчай эліты. Упершыню на розных мерапрыемствах за мяжой увесь час сустракаеш людзей, з якімі перасякаўся ў Беларусі на розных пляцоўках, дзе разам рабілі фестывалі, сустрэчы. Гэта новая для нас рэальнасць. І вельмі важна не распусціцца як соль у вадзе культуры іншых краін, а скарыстаць гэты час для культурнага абмену ў лепшым разуменні гэтага паняцця, для прафесійнага росту, пазнання лепшых практык. Каб на момант вяртання ў Беларусь усе здабыткі эміграцыі сталі здабыткамі для Беларусі.



Намесніца старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра звяртае ўвагу на тое, што ў цяперашніх умовах падтрымкі патрабуюць не толькі тыя, хто з'ехаў, але і тыя, хто застаўся ў Беларусі:

– Другі прыярытэт, які не менш важны, – падтрымка дзеячаў культуры, якія засталіся ў Беларусі, былі звольненыя са сваёй працы і не маюць магчымасці творчай рэалізацыі. Але я перакананая, што ім ёсць што рабіць. Яны маглі б пісаць мемуары, даследаванні, рабіць культурніцкія праекты, якія цяпер немагчымыя ў публічнай сферы, але праз пэўны час яны б "стрэлілі" і сталі важным культурным прадуктам, калі будзе магчымым іх публічнае жыццё.

І варта памятаць пра пра медыйны эфект. Які не працуе ў часы надзвычайнай сітуацыі. Цяпер усё добрае патрабуе цішыні, каб не прыцягваць увагу рэпрэсіўнай дзяржаўнай машыны.

– Нягледзячы на тое, што выглядае, быццам бы ўсё жывое з'ехала, а ў Беларусі нічога не засталося, я катэгарычна не згодная з гэтым сцверджаннем. Мы сёння жывём у такім свеце, калі быццам бы існуе толькі тое, што ёсць на старонках медыя. Але людзі, якія засталіся ў Беларусі, у мэтах бяспекі не могуць гучна гаварыць. І калі мы ацэньваем за мяжой тое, што адбываецца ў Беларусі, важна памятаць, што ў краіне шмат усяго, што патрабуе нашай падтрымкі, рознай падтрымкі. Гэта будзе глебай, базісам, на якой будзе саджацца тое, што вернецца ў Беларусь. І нам важна зрабіць так, каб гэтая глеба не ссохла і магла даваць свой плён, – падкрэслівае Таццяна Нядбай.

Сумныя тэндэнцыі

Для жыцця і творчасці ў краіне ў сітуацыі пераследу за іншадумства і пастаянных рэпрэсій характэрныя наступныя з'явы:

– самацэнзура: "удзельнікі гурта вырашылі не публікаваць песню, бо асцерагаюцца пераследу з боку ўладаў", "прайшоў закрыты паказ спектакля", рэдактар "ладзіць унутраную цэнзуру на прадмет "экстрэмізму" ўсіх кніг, якія плануе выдаваць", "праз адчуванне небяспекі адмовілася ўдзельнічаць у фэсце", "песнямі пратэсту лепш не дзяліцца тым, хто застаецца на радзіме" ды інш.;

– перамяшчэнне "прадукту беларускай культуры" за мяжу: "прэм'ера ў Беларусі не запланаваная", "на жаль, у Беларусі паказаў пакуль што не плануецца", "Рэвалюцыю" беларускага пісьменніка Віктара Марціновіча паставяць у нямецкім тэатры", "у Кіеве адбылася прэм'ера спектакля па матывах рамана Сашы Філіпенкі "Былы сын" і г. д .;

– апроч вымушанага ад'езду з краіны ў мэтах асабістай бяспекі, з'язджаюць з краіны творчыя людзі і ў мэтах самарэалізацыі. Так, у Вільні прайшоў першы спектакль з удзелам акцёраў Гродзенскага тэатра, якія страцілі працу ў Беларусі; Павел Харланчук з'ехаў з Беларусі і далучыўся да трупы Маскоўскага Губернскага тэатра Сяргея Бязрукава ды іншыя прыклады;

– фактычна "забарона на прафесію" ў Беларусі: немагчымасць займацца справай жыцця, што асабліва актуальна для дзеячаў культуры, звольненых з дзяржаўных устаноў культуры;

– таксама мы ведаем пра існаванне вялікага шэрагу рэпрэсій, якія застаюцца незаўважанымі. Дзеячы культуры (асабліва тыя, што жывуць у рэгіёнах) застаюцца сам-насам з ціскам і рэпрэсіямі, але ніяк гэтага не афішуюць дзеля таго, каб была магчымасць заставацца ў краіне і працаваць далей – хоць бы і ў іншым месцы, а не там, адкуль творца быў (-ла) раней звольнены (-ая);

– страх дэманстрацыі сваёй ідэнтычнасці – напрыклад, польскай (у сувязі з сітуацыяй стыгматызацыі палякаў і агульнай антыпольскай палітыкай).

**ВХ, polskieradio.pl**






## У замежжы стварылі новы Беларускі ПЭН

Адбыўся ўстаноўчы сход для стварэння Беларускага ПЭНа ў замежжы. Асноўныя каштоўнасныя пазіцыі арганізацыі выкладзеныя ў Маніфесце няпэўнага часу, падрыхтаваным ініцыятыўнай групай.

Старшынёй Беларускага ПЭНа была абраная Таццяна Нядбай. У Раду ўвайшлі: Святлана Алексіевіч, Вольга Шпарага, Юля Цімафеева, Андрэй Хадановіч і іншыя.

Сходам таксама зацверджаная назва для арганізацыі: Беларускі ПЭН — на беларускай мове, PEN Belarus — на англійскай.

Беларускі ПЭН з'яўляецца паўнапраўным чальцом Міжнароднага ПЭНа.

Сайт: penbelarus.org (з Беларусі праз vpn), тэлеграм-канал — @PENBelarus.

Салідарнасць з Беларускім ПЭНам выказалі шэраг міжнародных арганізацый, сярод іх - Міжнародны ПЭН, ПЭН Амерыка, Шведскі ПЭН, Украінскі ПЭН, Польскі ПЭН і іншыя арганізацыі.

кнігі

# У ВІЛЬНІ ПРАЙШЛА ПРЭЗЕНТАЦЫЯ РАМАНА УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА



Дзясятая па ліку і заключная прэзентацыя праходзіла з аншлагам. Заля Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча 4 снежня была запоўнена пад завязку прыхільнікамі творчасці выбітнага літаратара сучаснасці.

Цяжкая для вымаўлення назва рамана паходзіць ад габрэйскага найменя апраметнай. Аўтар філасофствуе на тэму таго, што нашае жыццё з ягонымі выклікамі, выпрабаваннямі і выбарам часам не нашмат адрознае ад той апраметнай. Хаця і напісаная ў жанры гістарычнага фэнтэзі кніга шмат у чым аўтабіяграфічная. У ёй пераплецены эпізоды з жыцця класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы і сцэны з брэжнеўскіх часоў. Героі кнігі ставяцца перад цяжкім маральным выбарам і глыбока рэфлексуюць на гэты конт.

Уладзімір Някляеў падчас прэзентацыі ўзгадваў гісторыі свайго жыцця, якія паўплывалі на ягоны прыход у літаратуру, распавядаў пра сваю новую кнігу, чытаў вершы і нават выканаў песню "Васільковае поле". Хаця збольшага песні спяваў выдатны музыка і сябра Уладзіміра Някляева Зміцер Вайцюшкевіч. Ён выканаў нізку сваіх найпапулярнейшых кранальных песень на словы Уладзіміра Пракопавіча. Гучалі песні "Як ты адзін", "Скончылася лета", "Дарога", "Красуня Вясна", чым заслужыў гарачыя апладысменты і ўдзячнасць прысутных.

Паводле Ярaслава Іванюка, сёння адбывалася 10-я, заключная прэзентацыя кнігі, практычна ўсе асобнікі якой падчас прэзентацыйнага туру былі раскупленыя.

"Мы наведалі найбольшыя асяродкі беларускай эміграцыі ў Польшчы, а таксама месцы пражывання беларускай нацыянальнай меншасці. Былі ў Кракаве, Уроцлаве, Познані, Гданьску, Варшаве, Лодзі, Беластоку, Бялай Падлясцы. Апошнія дзве прэзентацыі мы зладзілі ў Вільні ў Доме літаратара, а таксама ў доме Івана Луцкевіча. На ўсіх прэзентацыях была вялікая зацікаўленасць як самой кнігай, так і яе аўтарам, ці не найбольш вядомым беларускім літаратарам", – адзначае прадстаўнік фонду Kamunikat.org Яраслаў Іванюк.

"Я як выдавец вельмі задаволены гэтым турам, вельмі ўсцешаны, што ў нас усё атрымалася. Мы будзем працягваць. Зацікаўленасць кнігай вялікая. Хутчэй за ўсё будзем дадрукоўваць", – дадаў Яраслаў Іванюк.

Раман "Гэй Бэн Гіном" надрукаваны пры падтрымцы Kamunikat.org у Польшчы і распаўсюджваўся падчас прэзентацыйнага туру сярод беларускай дыяспары Польшчы і Літвы. Беларускім чытачам з палітычных прычынаў пакуль даступная толькі электронная версія.

**Арцём Лява, novychas.info**

# "КАЗКА ПРА ТОЕ, ЯК СВЯТОГА МІКОЛУ ЗАБАРАНЯЛІ"




Наталка Харытанюк паведаміла цудоўную навіну – пабачыла свет калядная кніга, якая заканчваецца старой метафарай, "якой заканчваліся ў гісторыі таталітарныя рэжымы: зло знішчае само сябе".

"Казка пра тое, як Святога Міколу забаранялі" – пакуль толькі электронная кніга. "Аднак у наступным годзе да Калядаў, спадзяемся, выдамо яе і на паперы", – абяцае аўтарка.

"Казку пра тое, як Святога Міколу забаранялі" рабілі разам з ілюстраторкай Лізаветай Ганчаровай, дызайнеркай Кацярынкай Пікірэняй і рэдактарам Максам Шчуром – і паспелі якраз да Калядаў!

А яшчэ – у гэтай кнізе ўжо аж тры перакладныя версіі! І яны якія таксама з'явяцца ў электронным фармаце да Калядаў. Кнігу можна будзе пачытаць па-грузінску, па-англійску і па-руску.

**budzma.org**



# КНІГУ ПАЛІТВЯЗНЯ МІКОЛЫ ДЗЯДКА "ФАРБЫ ПАРАЛЕЛЬНАГА СВЕТУ" ВЫДАЛІ НА НЯМЕЦКАЙ МОВЕ

У выданні Мікола распавядае пра арганізацыю працы карных органаў у Беларусі і сістэму ўціску асобы. Частка твору напісаная за кратамі.

У 2017 годзе Беларускі ПЭН-цэнтр узнагародзіў "Фарбы паралельнага свету" прэміяй Францішка Аляхновіча як найлепшую кнігу, напісаную ў зняволенні. 10 лістапада аўтару прысудзілі чарговыя 5 гадоў калоніі.

**"Беларускае Радыё Рацыя"**

гутарка

# Аляксей Каўка: "Хацеў узяць з сабой у Мінск бел-чырвона-белы сцяжок, які мне падаравала Вольга Корбут"

Большая частка жыцця беларускага гісторыка і літаратуразнаўцы Аляксея Каўкі прайшла ў Маскве, дзе ён доўгі час працаваў у Інстытуце сусветнай літаратуры, быў галоўным рэдактарам славяназнаўчага часопіса. Але думкай і сэрцам ён заўсёды імкнуўся на радзіму, перажываў за суайчыннікаў. Імкнецца, перажывае і сёння. Нават пандэмія не стала для шаноўнага доктара навук перашкодай. Журналіст "Народнай волі" пагутарыў з навукоўцам.



**– Аляксей Канстанцінавіч, гады два вы не былі ў Мінску – з-за каранавіруса. Ды і цяпер забаронныя шлагбаумы дарэшты не зняты. Як вам удалося прарвацца на радзіму?**

– Прарывацца не давялося, ехаў без прыгод. Дзякуй Богу, пачалі хадзіць цягнікі, з'явіўся і новы маскоўскі – "Ласточка". Ім я і дабіраўся. Народу ў вагоне было няшмат, чалавек пятнаццаць. Я вакцынаваны, адпаведныя паперы былі пры мне, але іх ніхто не правяраў. Хацелася мне ўзяць з сабой у Мінск бел-чырвона-белы сцяжок, які мне ў свой час падаравала наша славутая Вольга Корбут…

**– З тым сцяжком вас проста на вакзале маглі б затрымаць. А калі Корбут вам яго падаравала?**

– Яшчэ ў 1989 годзе, калі яна з Данчыкам і сваім мужам Леанідам Барткевічам прыязджала да нас у Маскву. Была вельмі цёплая сустрэча з маскоўскімі беларусамі, і пасля яе алімпійская чэмпіёнка падышла да мяне: "Вось вам, спадар Аляксей, памятка". Я з тым сцяжком доўга хадзіў на розныя беларускія акцыі ў Маскве. І ў Мінск хацеў узяць, але жонка адгаварыла…

**– Слушна зрабіла. Маглі б трапіць на Акрэсціна. Вы ж ведаеце, што ў нас тут "зачыстка" поўным ходам ідзе.**

– Падобныя "зачысткі" адбываліся ва ўсіх таталітарных краінах, калі ўсе іншадумцы рабіліся "ворагамі народа". "Зачышчаць" беларусаў пачаў яшчэ Мураўёў-вешальнік, які змагаўся, як лічылася, з "польскім засіллем", хацеў забяспечыць "истинно русский строй" у Беларусі. Гэта яму, аднак, не ўдалося – у татальным сэнсе. Беларус-селянін упарта трымаўся свайго – і звычаяў, і мовы. Дык гэта мела месца ў Расійскай імперыі. А тут нібыта ў незалежнай Беларусі адбываецца тое самае! Уключыў я раніцай БТ, а там галоўны следчы расказвае, як яны змагаюцца з "инспираторами государственного переворота"… І такой мураўёўшчынай на мяне дыхнула! Зайшоў у інтэрнэт, а там генерал нейкі пагражае за аднаго забітага сілавіка сто апазіцыянераў расстраляць… Ведаеце, нават гаўляйтар Кубэ падобных публічных выказванняў сабе не дазваляў. А чаго варта закрыццё Саюза беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы!.. Пры акупантах такога не было, пры царызме… Сэрца крывёю абліваецца, не бачылі б вочы, не слухалі б вушы!

**– Ці закранулі рэпрэсіі апошняга года вашых сваякоў тут, у Беларусі?**

– Пляменнік мой быў вымушаны з'ехаць у Вільнюс. З сям'ёй, чацвёра дзяцей, у тым ліку малалеткі па два-тры гады. Працаваў у банку. Летась быў з жонкай на акцыях пратэсту. Пачалі за ім віжаваць, ператрус быў. Паспеў выехаць праз Расію, а то трапіў бы за краты, як трапілі ўжо тысячы. Улады цяпер вылічваюць па відэазапісах, хто яшчэ ўдзельнічаў у "пераваpоце", каго яшчэ пасадзіць. А гэта не пераварот, а нацыянальна-вызваленчы рух! Так, стыхійны, але ж і масавы.

**– Ведаю, што днямі вы вярнуліся са сваёй малой радзімы – з Чэрвеня. А як там народ у гэтыя перадднавагоднія дні рэагуе на зусім не святочныя падзеі, на рэпрэсіі?**

– У Чэрвень я ездзіў на пахаванне блізкага мне чалавека. Мяне ўразіла, колькі людзі нанеслі кветак і вянкоў – бел-чырвона-белых! І падчас развітання нехта заўважыў: вось бы цяпер наляцелі сюды "амонаўцы", усе кветкі патапталі б, а нас бы ў аўтазакі… Так што народ усё разумее. А Чэрвень – чысценькі, дагледжаны гарадок. Наконт гэтага мой чэрвеньскі сябра Уладзімір Дарагуш заўсёды іранізаваў, што і ў Асвенцыме былі парадак і чысціня і музыка гучала. А печы дымілі… Прайшоўся я па Чэрвені – вуліцы Маркса, Лібкнехта, Леніна, Савецкая… На такіх вуліцах камфортна жыць хіба што ненавіснікам усяго беларускага. Украіна за месяц ачысцілася ад гэтай чужацкай тапанімікі, і ёй Масква не можа дараваць гэтага.

**– Затое даруе ўсё афіцыйнаму Мінску. Нават бесцырымоннае закрыццё "Комсомольской правды", любімай газеты Пуціна.**

– Гэта дробязі ў параўнанні з вялікай палітыкай. Таму што канчатковы план Крамля – каб "беларускі балкон", высунуты ў Еўропу, быў у расійскіх руках. А ён пакуль не здзяйсняецца. Таму на расійскіх тэлеканалах Лукашэнка паказваецца як лідар, які выступае супраць "калектыўнага Захаду", бароніць у гэтым сэнсе Беларусь і Расію.

**– Відавочна, што мігранцкі крызіс на беларуска-польскай мяжы не даў патрэбнага для ўлады выніку. Як вы, былы дыпламат (працавалі ў Варшаве), ацэньваеце тое, што адбывалася пад Гродна?**

– Гэта была амаль што неабвешчаная вайна з боку Беларусі. І я проста дзівіўся вытрымцы палякаў. Беларускія дзяржаўныя СМІ распалілі такі антыпольскі псіхоз, што невядома, чым гэта скончыцца. Не думаю, што Польшча дазволіла б сабе пры любым раскладзе "ўсходнія крэсы" вяртаць. Варшаву правакавалі, каб падчас узброенай сутычкі на мяжы пад шумок здаць-заняць "беларускі балкон". Перакананы: увесь гэты "крызіс" планаваўся і за крамлёўскай сцяной таксама.

**– Адзін з вашых даўніх артыкулаў пра Беларусь называўся "Тэрыторыя ці народ". Сёння вы ўжылі б такую ж фармулёўку?**

– Не. Беларусы ў 2020 годзе гучна, на ўвесь свет заявілі пра сябе як нацыю. Дылема "тэрыторыя ці народ" для мяне вырашана раз і назаўсёды. Зводзіць цяперашнюю Беларусь толькі да тэрыторыі – анахранізм. Ёсць народ, ёсць нацыя, і ёсць дзяржава. Праўда, як ні горка і парадаксальна гэта гучыць, дзяржава тая займаецца знішчэннем беларушчыны. Думаю, што парадокс гэты хутка будзе пераадолены. Хоць у тым, каб ён працягваўся як мага даўжэй, зацікаўлены ўсходні сусед. Шмат будзе залежаць ад падзей у Расіі. Калі там пачнуцца тэрытарыяльныя праблемы, Маскве будзе не да новага аншлюсу, які, гэта трэба прызнаць, сёння Беларусі рэальна пагражае.

**– Незалежная маскоўская "Новая газета" (аддамо ёй належнае) давала аб'ектыўную інфармацыю пра леташнія беларускія падзеі. І Нобелеўскую прэмію яна атрымала, як мне падаецца, дзякуючы і гэтай акалічнасці.**

– Згодзен з вамі. Пазіцыя "Новой газеты" асабліва была відна на фоне той жа "Комсомольской правды", на старонках якой прысяжныя барзапісцы "разоблачали провокацию, устроеную в Белоруссии националистами". Так што з-за закрыцця "КП" я не перажываю. А колькі жоўці было выліта на беларусаў на федэральных тэлеканалах! Уключаеш праграму Салаўёва, а там суцэльная беларусафобія! "Я такого бялорусского языка не знаю, который они изображают"… Бог ты мой! Маршал Перамогі Жукаў – і той у анкеце пісаў, што валодае "замежнай беларускай мовай". А гэтыя так званыя аналітыкі – "не знаю"… "Новая газета", дзякуй яе рэдактару Дзмітрыю Муратаву, выратавала гонар расійскай дэмакратычнай думкі. Гэта ўражвала – пад лозунгам "Жыве Беларусь!" на яе старонках публікаваліся гарачыя рэпартажы з мінскіх падзей, была якасная аналітыка. Думаю, што рэдакцыйная праца "Новой газеты" застанецца ў гісторыі, нездарма яе ў Расіі назвалі ўжо "коллективным колоколом" (маючы на ўвазе герцэнаўскі "Колокол" XIX стагоддзя).

Працяг на старонцы 7.

навіны

# КУДЫ З'ЯЗДЖАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ?

Пасля выбараў 2020 года вялікая колькасць беларусаў была вымушаная пакінуць свой родны дом. Шмат хто з іх верыць, што гэта часова, і на дзень народзінаў загадвае вярнуцца.

### Грузія

Паводле неафіцыйных звестак да зімы 2021 года Грузія ўжо прыняла каля 3-5 тысяч палітычных эмігрантаў з Беларусі.

Чаму беларусы паехалі ў такі няблізкі свет? Прычын адразу некалькі. Сюды не трэба віза, да гэтага часу захаваліся прамыя авіязносіны, у краіне выдатны клімат, недарагое ў параўнанні з Польшчай, Літвой і нават Украінай жыццё.

Паводле звестак грузінскіх уладаў, за 11 месяцаў 2021 года ў Грузіі пабывалі каля 35 тысяч беларусаў – гэта амаль утрая больш за аналагічны перыяд мінулага года. Афіцыйных дадзеных пра тое, хто з гэтых беларусаў дадому вырашыў не вяртацца, баючыся палітычнага пераследу, няма.

Справа ў тым, што па прыездзе ў Грузію беларусам не трэба нідзе рэгістравацца. Больш за тое, бязвыезна і без неабходнасці якой-небудзь легалізацыі беларусы могуць знаходзіцца тут 12 месяцаў.

Далей можна проста «абнуліцца». Для гэтага дастаткова, да прыкладу, перасекчы мяжу з суседняй Арменіяй, Азербайджанам ці Турцыяй, куды беларусам віза таксама не патрэбна, і зноў вярнуцца ў Грузію. Пасля гэтага ў вашым пашпарце будзе стаяць штамп аб перасячэнні мяжы. І гэта значыць, што вы без праблем можаце жыць у Грузіі яшчэ адзін год.

У краіне сабралася даволі дружная беларуская дыяспара. Гэта не толькі «айцішнікі». Будаўнікі, сантэхнікі, электрыкі. Беларусаў хваляць за тое, што яны, як правіла, умеюць працаваць шмат і якасна.

### Літва

З верасня 2020 года да лістапада 2021-га Літва выдала беларусам 26,2 тысячы нацыянальных віз. З іх 6,7 тысячы – гуманітарныя. Такі лічбы дае Дэпартамент міграцыі Літвы.

Статус уцекача пасля пратэстаў атрымаў 71 чалавек. Калі ў лістападзе мінулага года разгляду чакалі 34 заяўкі ад беларусаў, то ў лістападзе гэтага – 131.

23 221

Акурат столькі беларусаў атрымалі часовы від на жыхарства ў Літве з 1 жніўня 2020 па 19 лістапада 2021

Калі глядзець па відах дзейнасці, то сярод эмігрантаў ёсць актывісты, журналісты, праваабаронцаў, стачкамаўцы, студэнты, спартоўцы, дзеячы культуры. Нават святары.

Са жніўня 2020 года да лістапада 2021-га беларусам выдалі 23,2 тысячы часовых відаў на жыхарства. З іх амаль шэсць тысяч – заменены.

Пераязджаў і беларускі бізнэс. Кіраўніцтва Літвы паведамляла, што больш за 100 беларускіх кампаній зацікаўлена ў рэлакейце да іх. Там прынялі папраўкі ў заканадаўства, якія спрыяюць пераезду замежнага бізнэсу. Усе супрацоўнікі кампаній-рэлакантаў змогуць падавацца на ВНЖ. Члены іх сем'яў таксама атрымаюць права на ВНЖ і працу ў Літву (не важна, якой яны прафесіі).

Гэтыя ўмовы будуць дзейнічаць для кампаній, якія створаць не менш за 20 працоўных месцаў і інвестуюць у краіну ад 1,45 мільёна еўра.

Сярод тых, хто адкрыў офіс у Літве, – вядомыя IT-кампаніі. Па інфармацыі dev.by, гэта Currency.com, Wargaming, EPAM, Flo, Godel, Belka Games, Itransition. У Вільні цяпер размяшчаецца стартап-хаб Imaguru. Увосень праз рэлакацыю айцішнікаў падскочылі цэны на арэнду нерухомасці. Wargaming у адным з віленскіх хмарачосаў выкупіў адразу 76 кватэр.

Высокакваліфіканыя спецыялісты з-за мяжы могуць атрымаць у Літве blue card. За перыяд са жніўня 2020-га да лістапада 2021-га такі часовы від на жыхарства выдалі 841 беларусу (38 з іх замянялі стары). Большасць працуе па IT-спецыяльнасцях – праграмісты, тэціроўшчыкі, графічныя дызанейры, аналітыкі камп'ютарных сістэм, сістэмныя адміністратары.

Агулам паток беларускіх айцішнікаў ацэньваюць у некалькі тысяч.

Колькі беларусаў атрымалі від на жыхарства ў Польшчы?

2019 год: **9085** чалавек

2020 год: **8080** чалавек

2021 год: **14 430** чалавек





### Польшча

Адной з краін, якая прыняла ў сябе больш за ўсё эмігрантаў з Беларусі, з'ўляецца Польшча.

Паводле Міністэрства замежных спраў, з чэрвеня 2020 да канца ліпеня 2021 года Польшча выдала беларусам 178 711 візаў. У гэтым ліку таксама візы Poland.Business Harbour для стартаппераў, праграмістаў і прадпрымальнікаў у IT-сферы (а таксама для членаў іх сям'і). Такіх беларусам за год з невялікім (з моманту існавання праграмы) выдалі 22 тысячы.

Асобную катэгорыю складаюць гуманітарныя візы: яны выдаюцца актывістам, людзям у групе рызыкі, тым, хто выязджае з краіны праз палітычныя рэпрэсіі.

Рост выдадзеных гуманітарных віз проста шалёны: да пачатку выбарчых падзей у 2019 годзе беларусам выдалі ўсяго 7 гуманітарных віз, а ўжо з чэрвеня 2020 года па ліпень 2021-га – 12 190.

Са снежня мінулага года наяўнасць такой візы адкрывае магчымасць легальна працаваць у Польшчы – такія змены былі адмыслова ўнесеныя ў польскае заканадаўства ў якасці меры падтрымкі.

Людзям, якім у роднай краіне пагражае пераслед ці рэальная рызыка здароўю, у Польшчы можна атрымаць міжнародную абарону. У 2021 годзе міжнародную абарону атрымалі 943 беларусы. У 2020-м такіх было 81, а ў 2019-м усяго тры.

Колькасць людзей, якія атрымалі ў Польшчы віды на жыхарства, апошнім часам таксама моцна вырасла: 8 080 чалавек у 2020 годзе супраць 14 430 у 2021-м.

Асобнай катэгорыяй беларускіх грамадзян, што

могуць знаходзіцца ў Польшчы, з'яўляюцца людзі, што выязджаюць туды на сезонныя працы. Паводле Дэпартамента рынку працы, ў першым паўгоддзі 2021 года былоададзена больш 40 тысяч заяў ад працадаўцаў па найме грамадзян Беларусі. За аналагічны перыяд 2020-га такіх налічвалася каля 30 тысяч, што таксама можа сведчыць пра тое, што больш беларусаў сталі ўладкоўвацца за мяжой.

**Украіна**

Частка беларусаў разглядае пераезд ва Украіну як часовую меру. Кажучы простымі словамі, каб выдыхнуць, адпачыць ад ціску і падумаць, як і дзе жыць далей.

Без легалізацыі беларусы маглі правесці на тэрыторыі Украіны 90 дзён на працягу паўгода. На 2021 год гэты тэрмін быў адмыслова падоўжаны ўдвая, да 180 дзён. Каб затрымацца даўжэй, прыйдзецца афармляць від на жыхарства.

Па афіцыйных даных Дзяржаўнай памежнай службы Украіны, з 1 верасня 2020 па 1 снежня 2021 ва Украіну ўехала 358,2 тысячы беларусаў. За гэты ж перыяд выехала (не абавязкова назад у Беларусь) толькі 320,5 тысяч.

Атрымліваецца, што амаль 38 тысяч чалавек засталіся ва Украіне. Зразумела, што частка гэтай лічбы – людзі, якія паехалі наведаць сваякоў альбо вырашыць працоўныя пытанні, таксама турысты, якія негледзячы на закрытыя Беларуссю межы, знаходзяць спосабы падарожнічаць. Але ж застаюцца за мяжою тысячы чалавек.

За той жа перыяд па статус бежанца альбо за дадатковай абаронай да украінскай дзяржавы звярнуліся 40 беларусаў.

Таксама маюцца дадзеныя за ранейшы перыяд. Вядома, што праз год пасля пачатку пратэстаў супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі від на жыхарства ва Украіне атрымалі больш за 3,5 тысячы грамадзян Беларусі.




Са жніўня 2020-га па ліпень 2021-га часовы від на жыхарства аформілі 3042 грамадзяніна, яшчэ 487 чалавек атрымалі дазвол на пастаяннае пражыванне. Таксама, пачынаючы з 2020 года, ва Украіне прызнаныя бежанцамі дзевяць беларускіх грамадзян, яшчэ двое атрымалі статус асоб, якія маюць патрэбу ў дадатковай абароне.

Такія даныя падала Дзяржаўная міграцыйная служба Украіны. Для параўнання, у 2019 годзе ва Украіне выдалі для беларусаў 2175 часовых відаў на жыхарства, а ў 2020-м – 2537.

Сярод беларускіх мігрантаў ёсць дзве вялікія групы прафесіяналаў, якія можна вылучыць асобна. Гэта журналісты і спецыялісты-айцішнікі.

Невядома, ці будзе дзейнічаць у 2022 годзе пастанова аб падаўжэнні знаходжання ва Украіне для беларусаў – тая, якая цяпер дазваляе знаходзіцца там 180 дзён. Калі не, то ў 2022 годзе тэрмін скароціцца да стандартных 90 дзён.

Не так шмат людзей звяртаюцца за статусам бежанца, бо ў гэтым выпадку ў чалавека забіраюць пашпарт, адпаведна, становіцца немагчымым адкрыць «ФОП» (мясцовы аналаг ІП), ІПН, уладкавацца на працу. Акрамя таго, ніякай фінансавай дапамогі ад украінскай дзяржавы бежанец не атрымае.

Ва Украіне існуе некалькі варыянтаў для таго, каб атрымаць ВНЖ. Сярод самых рэальных: валанцёрства, асобныя віды прафесій (IT-спецыялісты, журналісты, медыкі, артысты і дзеячы культуры) і сваякі першай лініі.

Паводле nashaniva.com

гутарка

# Аляксей Каўка: "Хацеў узяць з сабой у Мінск бел-чырвона-белы сцяжок, які мне падаравала Вольга Корбут"

Працяг са старонкі 5.

**– У гэтым сэнсе варта згадаць і народнага артыста СССР Уладзіміра Співакова, які публічна адмовіўся ад ордэна Скарыны, які ў свой час атрымаў з рук Аляксандра Лукашэнкі.**

– Учынкам Співакова і я быў узрушаны. А помніце, у Мінску пасадзілі на суткі студэнта-хіміка Арцёма Баярскага, пераможцу міжнародных алімпіяд? У яго абарону выступілі 15 акадэмікаў і членкараў Расійскай Акадэміі навук! Тая ж "Новая газета" публікавала іх зварот да генпракурора Беларусі. Што, у Беларусі не знайшлося сваіх акадэмікаў?

**– Відаць, атрымалася, як у вершы Яўтушэнкі: "Ученый, сверстник Галилея, / был Галилея не глупее. / Он знал, что вертится Земля, / но у него была семья".**

– Во-во, "была семья"… Сядзяць вашы акадэмікі, як мышы пад венікам. Але мышы нават пад венікам варушацца!

**– Вы былі стваральнікам і шматгадовым кіраўніком Таварыства беларускай культуры ў Маскве. Яго ўжо няма. А што з'явілася замест яго?**

– На пачатку 2000-х у Расіі пачалі ствараццa нацыянальна-культурныя аўтаноміі. Як я зразумеў, пад кантролем адпаведных дзяржаўна-палітычных структур. Прыйшлі новыя людзі, утварылі аўтаномію "Белорусы России". Што пра яе сказаць? Дастаткова, відаць, таго, што кіраўнікі гэтай арганізацыі рэгулярна ўдзельнічаюць ва Усебеларускім сходзе, галасуюць разам з усімі гэтак званымі "дэлегатамі".

**– Вы падрыхтавалі і выдалі 10 выпускаў гадавіка "Скарыніч". Працяг будзе?**

– Калі б было фінансаванне. Са "Скарынічам" мне ўвесь час дапамагаў мой маскоўскі калега Віктар Чайчыц, дыпламат, германіст, фінансавы бок на яго плячах трымаўся. Што далей будзе? Дванаццаты "Скарыніч" даступны ў інтэрнэце, у электроннай бібліятэцы "Камунікат". Дзякуй яе заснавальніку Яраславу Іванюку, які вывесіў увесь камплект.

**– Мікола Нікалаеў выпусціў у свет таўшчэзны том "Беларускі Пецярбург". А каб зрабіць кнігу "Беларуская Масква" матэрыялаў не хапае?**

– Матэрыялаў больш чым дастаткова. І яны больш-менш сістэматызаваны. У энцыклапедычным даведніку "Беларускае замежжа" ёсць асобны раздзел пра маскоўскіх беларусаў. А калі браць гісторыю… Тут безліч тэм і постацяў. "Янка Купала і Масква". Песняр там вянчаўся і там жа загінуў. Пра аднаго Купалу ў Маскве можна кнігу напісаць. Нядаўна я гартаў трохтомную Купалаўскую энцыклапедыю і са здзіўленнем не знайшоў там і згадкі пра кнігу Купалы "Молодая Беларусь" (выйшла адносна нядаўна ў Маскве), дзе сабраны раней "крамольна-спецхранныя" творы паэта, невядомая рускаму чытачу публіцыстыка. І наклад быў немалы – 5000 асобнікаў. І вось – ні слова ў энцыклапедыі…

**– Да Мінска дайшлі чуткі, што вы свой шматлікі кнігазбор падаравалі ў адну з маскоўскіх бібліятэк. Гэта праўда?**

– Праўда. Як праўда і тое, што кнігазбор той я спрабаваў спачатку "прыстроіць" у Мінску. Але дарма – нікога мае кнігі (пераважна беларусіка) не зацікавілі. А ў маскоўскай Акадэмічнай бібліятэцы прынялі з удзячнасцю, стварылі асобны фонд.

**– Што з Беларусі павезяце з сабой у Маскву?**

– Вось чаравікі зімовыя купіў у Чэрвені. Стаяў у чарзе да касы і сказаў спецыяльна гучна, на ўсю краму: "Дзякуй "бацьку" і "ябацькам" за добрыя чаравікі!" Бачу – людзі на мяне недружалюбна косяцца, адразу замаўчалі ўсе. Што мяне пэўным чынам абнадзеіла… Мне прыгадваецца светлай памяці Янка Брыль, які аднойчы пры сустрэчы сказаў мне: "Браце, не трэба ў роспач кідацца, перажылі лета гарачае, перажывём і г… сабачае". Мінулагодняе лета гарачае паказала – беларускі патэнцыял жывучасці ў наяўнасці, і ён рэалізуецца, нікуды не дзенецца!

"Народная Воля"




## Лічбы года. Пераслед журналістаў і медыя ў Беларусі ў 2021 годзе*

**13** медыя, прызнаных «экстрэмісцкімі»

**8 733** агульная колькасць дзён, праведзеных журналістамі ў няволі

**113** затрыманняў журналістаў за год

**29** адміністрацыйных арыштаў

**73 486** агульная сума штрафаў журналістам (BYN)

**146** вобшукаў у журналістаў і медыя

**32** прадстаўнікі медыя ў няволі




*па стане на 29.12.2021
Беларуская асацыяцыя журналістаў | www.baj.by

**навіны**

# БЕЛАСТОЦКІ КАВОРКІНГ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ ПАЧЫНАЕ САВЮ ПРАЦУ

Рамонт у памяшканні, у якім будзе знаходзіцца беластоцкі каворкінг, практычна завяршыўся. Памяшканне было выдзелена беластоцкімі гарадскімі ўладамі напрыканцы жніўня.

“Афіцыйнае адкрыццё цэнтру адбудзецца ў студзені, – кажа кіраўнік беластоцкага каворкінгу Руслан Кулевіч. – Рамонт ужо амаль зроблены, мы можам працаваць. Афіцыйнае адкрыццё мы зробім у студзені. Запросім калег з Варшавы, і тых, хто нам дапамагаў. Мы тут працуем ужо каля двух тыдняў. Была сустрэча з беларусамі, нашы журналісты збіраліся. У канцы студзеня плануем зрабіць культурную імпрэзу, прыедзе Аляксандр Патліс, вядомы музыка з Беларусі, правядзем сустрэчу з журналістамі і запросім беларусаў.



Беларускія журналісты, якія працуюць у беластоцкім каворкінгу, ужо заснавалі інтэрнэт-выданне “Мост”, якое ў студзені з’явіцца ў польска-беларускай інфармацыйнай прасторы.

Руслан Кулевіч таксама паведаміў, што ў памяшканні каворкінгу будуць ладзіцца і культурныя мерапрыемствы – выставы мастакоў, прагляды фільмаў, сустрэчы з цікавымі людзьмі, прэзентацыі кніг.

“Беларускае Радыё Рацыя”

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2022 года

**6 студзеня**

- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Адам Станкевіч, каталіцкі святар, культуролаг, выдавец. Памёр у 1949-м.

**7 студзеня**

- Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары
- 105 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Святаслаў Коўш, праваслаўны святар, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1997-м.

**9 студзеня**

- 275 гадоў таму, у 1747-м, памёр Ігнат Кульчынскі, уніяцкі царкоўны дзеяч.
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Антон Жэбрак, генэтык. Памёр у 1965-м.

**10 студзеня**

- 125 гадоў таму, у 1897-м, нарадзілася Юлія Бібіла, бібліёграф, майстрыха мастацкага ткацтва. Памерла ў 1974-м.

**12 студзеня**

- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Яўген Кулік, мастак-графік.

**15 студзеня**

- 280 гадоў таму, у 1742-м, нарадзіўся Францішак Нарвойш, багаслоў, філосаф, матэматык. Памёр у 1819-м.

**18 студзеня**

- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пётр Сыч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Нямеччыне. Памёр у 1963-м.
- 75 гадоў таму, у 1947-м, у Лондане пачаўся Першы з’езд Згуртавання Беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

**19 студзеня**

- 160 гадоў таму, у 1862-м, памёр Міхаіл Без-Карніловіч, гісторык.

**20 студзеня**

- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч, мовазнавец. Расстраляны ў 1938-м.
- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Рыгор Шырма, харавы дырыжор, фалькларыст. Памёр у 1978-м.

**24 студзеня**

- 225 гадоў таму, у 1797-м, нарадзіўся Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ, філолаг. Памёр у 1896-м.
- 125 гадоў таму, у 1897-м, памёр Альфрэд Ромер, мастак, скульптар, этнограф.

**26 студзеня**

- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Мікалай Лапіцкі, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1976-м.

**28 студзеня**

- 245 гадоў таму, у 1777-м, памёр Антоні Скарульскі, рэктар Навагрудскага езуіцкага калегіума ў 1760–1764-м.
- 100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Янка Жамойцін, беларускі дзеяч у Польшчы. Памёр у 2003-м.
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Пётр Манькоўскі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**29 студзеня**

- 305 гадоў таму, у 1717-м, нарадзіўся Людвік Грынцэвіч, архітэктар. Памёр у 1783-м.

**30 студзеня**

- 100 гадоў таму, у 1922-м, у Мінску заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт).

**Беларусы ў свеце**
№ 12 (235), снежань 2021
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”
(у працэсе ліквідацыі)

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27